" Жыве Беларусь !"

"...Біце у сэрцы іх,біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць... "
Максім Багдановіч






N 7 Газета Прыазерскай гарадской рады Т Б М імя Францішка Скарыны ліпень 1991 г.
( Джэзказганскай вобл. Каз.С С Р ).

## Р А Д З І М А - М А Ц І

Кароткі вечар, ціхая малітва,
Званіцы дауняй векавечны звон,
І думак незакончаная бітва,
І кругаверць праклятых богам дзен.

Стаім мы моучкі за сцяной бязвер'я,
Не усе прайшлі пустэчу забыцця
І кожнаму сваей адмерау мерай
Кравец усяуладны нашага жыцця.

Стаім мы моучкі. Вочы засцілае
Набес вячэрніх шэрая імгла,
За намі мілая, адзіная святая
Радзіма наша у роспачы лягла

За намі усцяж гасцінцы і дарогі
Гады змагання, гора і надзей
За намі памяць, боль і страты многіх
Такіх патрэбных, родных нам людзей.

Яны ляжаць у грозных валатоуках
І у сціпласці вясковай цішыні
Ім грае песню светлую салоука,
І шэпчуць зоркі з вечнай вышыні

Яны ляжаць абапал пуцявіны,
Якой нам сення выпау лес ісці
Той шлях да вольнасці маей Айчыны
Той шлях для нас галоунейшы у жыцці

Радзіма-маці, мілая краіна,
На тым шляху ізноу твае сыны,
Не зведаць ім спакою і спачыну
Пакуль з цябе не скінуць кайданы.

Ляціць над краем вечная Пагоня,
Яна нас кліча у шчыльныя шыхты,
Калі у рады не устанеш браце сення
То заутра юдаю ужо будзеш ты.

Ляціць над краем вечная Пагоня
І рэе бел-чырвона-белы сцяг
Ты чуеш, востры меч як звоніць,
Б'е па іржавых, клятых ланцугах.

Радзіма-маці, памяць і надзея
Мне радасна, што ты устаеш з калень
Далонню цяжкай нішчыш ліхадзеяу
Сціраеш з твару непагоды цень.

Я веру, родная, што цяжкую хваробу
Адолееш і расквітнееш зноу,
Адгоніш чорнага Чарнобыля жалобу,
І забруіцца маладая кроу,

І загучыць на усей маей зямліцы
Радзімай мовы мілагучны спеу,
І заіскрыцца звонкаю крыніцай
І загрукоча, як небесны гнеу.

Ляціць над краем вечная Пагоня,
Ляціць у сэрцы у кожнага, у нас
І востры меч, як светлы сонца промень
І крыж, як строгі прашчурау наказ.

Той крыж Ярыла вольнаму народу
Прыбіу калісці на барвяны шчыт,
Настане дзень, мы прыйдзем да свабоды,
Альбо інačай сыйдзем у нябыт.

Ляціць над краем вечная Пагоня,
І груганам тут болей не лятаць,
І веру я, што рыцарам тым сення
Ужо наша "заутра" вольнае відаць.

Станіслау Суднік

## У Г О Д К І С У В Е Р Э Н І Т Э Т У .

27 ліпеня спауняецца год суверэннай Беларускай дзяржаве. Нацыянальнае свята. Мара дзесяткау пакаленняу Мара 500-гадовага узросту. Ява. І боль. Пякучы боль ад думкі, як далека ад гэтага суверэнітэту да рэальнай незалежнасці, да рэальнай самастойнасці. Нашчадкі ацэняць значэнне гэтай падзеі з большай вышыні. А ці магчыма даць ацэнку сення, праз год, праз адзін год?

Разглядаючы суверэнітэт Беларусі як пераходны стан да яе незалежнасці, а так і толькі так мы і павінны яго разглядаць, трэба адзначыць наступнае :

- абвяшчэннем суверэнітэту, хай сабе і следам за Расіяй і Украінай, мае тое станоучае значэнне, што падарвала рабскую псіхалогію беларуса, змусіла задумацца пра тое, як ен будзе жыць, калі рапта Беларусь аддзеліцца ад Саюза, заткнула горла тым,хто крычау на увесь свет, што " простаму чалавеку " не трэба ніякай самастойнасці, ніякага суверэнітэту.
- абвяшчэнне суверэнітэту рэзка пасунула улева беларускі парламент. Надзея схавацца за паперкаю і нічога не рабіць, якою цешыла сябе парламенцкая большасць, праваліліся. Выступленні рабочых паказалі, што схавацца не удасца. Давядзецца нешта рабіць для ажыццяулення гэтага суверэнітэту, хаця шмат каму і вельмі гэтага не хочацца. Ды давядзецца. Давядзецца прыняць канстытуцыю суверэннай Беларусі, давядзецца праводзіць беларусізацыю, давядзецца прыняць нацыянальную сімволіку, давядзецца больш дбаць пра Беларусь, чым пра Цэнтр.

Абвяшчэнне суверэнітэту безумоуна прывядзе і яшчэ да цэлага шэрагу станоучых наступствау, але разам з тым на парадак дня выступае шэраг праблем, якія не вырашаюцца і ад вырашэння якіх у першую чаргу залежыць лес і суверэнітэту і у рэшце рэшт поунай незалежнасці Беларусі. Гаворка ідзе пра праблемы эканамічныя. Гэта:

- неабходнасць перадачы пад юрысдыкцыю рэспублікі усіх прадпрыемствау саюзнага падпарадкавання, а іх на Беларусі шмат і вельмі шмат. Пры гэтым нельга забыцца і на прадпрыемствы вайскова - прамысловага комплекса.
- небходнасць перадачы Рэспубліцы ліній сувязі, шляхоу зносін, нафта- і газапровадау, ліній электраперадач на яе тэрыторыі.
- увядзенне арэнднай платы за праход цягнікоу, перакачку нафты і газу у Еуропу праз Беларусь. Калі ужо Беларусь знайходзіцца на скрыжаванні усіх шляхоу, то павінна мець ад гэтага і выгаду.
- неабходнасць перадачы Рэспубліцы мытняу, што у значнай ступені паспрыяе замежнаму гандлю.



# БЕЛАРУСЫ У ВАЙНЕ 1812 ГОДА

"Народная газета" за 2-ое ліпеня 1991 змясціла на сваіх старонках артыкул Анатоля Майсені пад назвай "Ешчэ Міншчызна не згінэла". Есць у гэтым артыкуле асобныя абзацы з якімі нельга пагадзіцца. У прыватнасці карэспандэнт беларускай газеты піша:

"...У беларусау жа адносіны да французскіх заваеунікау былі іншымі, падтрымкі на Беларусі войска Банапарта не знайшло, не гледзячы на усе польскія інтрыгі. Бо беларусы са свайго гістарычнага вопыту ведалі ужо тады, што вяртанне палякау іх становішча не палепшыць і волі не прынясе. Якая розніца у рэшце рэшт была для беларускіх сялян, пад якім панам хадзіць."

Пасля гэтых радкоу самае меншае чатыры пытанні хочацца паставіць Анатолю Майсеню.

Ці праудa тое, што на Беларусі войска Банапарта не знайшло падтрымкі?

Што гэта за польскія інтрыгі?

Чаму беларусы чакалі менавіта вяртання палякау?

Ці была розніца для беларускіх сялян пад якім панам хадзіць?

На нашую думку, адказы на гэтыя пытанні, паводле Майсені, не грунтуюцца на гістарычных фактах. Есць другая гісторыя, якую мы'лічым сапрауднай, якая мае гістарычныя доказы, якая напісана свядомымі беларусамі і якую мы збіраемся распавядаць.

Для гэтага трэба апынуцца у канцы 18-ага стагоддзя. 1794 год. Паустанне Тадэвуша Касцюшкі супраць падзелу Рэчы Паспалітай. Пра гэтае паустанне ужо нямала напісана і, тым мне менш, варта тое-сее яшчэ раз прыгадаць. За кім пайшлі беларускія сяляне, не кажучы ужо пра беларускую шляхту? Паміж молатам і кавадлам, паміж двумя імперыямі беларусы выбралі палякау, змагаліся разам з імі супраць расейцау, пад кірауніцтвам Касцюшкі, якога, дарэчы, дала таксама беларуская зямля і не менш выдатнага чалавека, чым Міцкевіч, Агінскі, Ажэшка. Чамусці у шэрагу гэтых іменау А.Майсеня не прыгадвае Касцюшкі, хаця яго імя неаддзяліма ад гісторыі Беларусі, ад гісторыі змагання нашага народа за сваю незалежнасць.

Аднак вернемся да паустання. Чаго патрабавалі беларусы, за што яны змагаліся? Сяляне падняліся за зямлю і волю, шляхта за адраджэння Вялікага Княства Літоускага, усе разам яны змагаліся за сваю веру, за сваю годнасць, за сваю мову. І наурад ці за 18 гадоу гэтыя ідэялы маглі настолькі згаснуць, што нават беларускім сялянам стау мілейшы расейскі пан.

Чым скончылася паустанне добра вядома. Яно было задушана войскамі Суворава, за што "прынцу сардзінскаму" было дарована царыцай за 13 тысяч беларускіх сялян, як, дарэчы, і іншым імператарскім падданым. Усяго было раздадзена мільен наіуных і падманутых царскімі абяцанкамі нашых прашчурау. Але не усе удзельнікі паустання склалі зброю. Многія былі вымушаны уцячы на Захад. У Мілане генерал Ян Дамброускі стварыу легіены з польскіх, беларускіх і літоускіх эмігрантау, якія пэуны час змагаліся за Францыю.

Такім чынам, на 1812 год Рэч Паспалітая і Вялікае Княства Літоускае ужо не існавалі, а былі толькі у сэрцах самых шчырых патрыетау. І тыя патрыеты, якія засталіся на захопленых Расейскай імперыяй землях, і тыя якія змагаліся на баку французскага імператара на Захадзе, кавалі зброю, чакалі час адраджэння згубленнай дзяржаунасці.

Пэуныя захады шляхта рабіла і пад расейцамі. У 1811 годзе Міхал Агінскі прапанавау праект аднаулення ВКЛ пад расейскім пратэктаратам. Але цар Аляксандр толькі абяцау, а нічога не рабіу для гэтага аднаулення.

Час наспеу у 1812 годзе з прыходам Напалеона. Скарыстаушыся незадавальненнем польскай, беларускай і літоускай шляхты, выкарыстоуваючы гульню на нацыянальных пачуццях імператар падыйшоу да справы адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоускага больш лаяльна.

Пасля пераходу праз Неман, каля мястэчка Коуна, французская армія не затрымалася у Літве, а рушыла далей на усход, наузадагон за 1-й і 2-й расейскімі арміямі, якія адыходзілі у кірунку Смаленска. Напалеон даручыу уладу, у пераняты з пад Маскоускага панавання Вялікім Княствам Літоускім, Часоваму Ураду, які больш мянавалі на Літве і Беларусі "Урадавай Камісіяй ". На чале яе стаяу прэзэс Маршалак Літоускі Солтан.

Між рознымі Камітэтамі, складаушымі Камісію, быу і Вайсковы Камітэт, якім кіравау князь Александр Сапега, а пасля яго смерці палкоунік (пазней брыгадны генерал) Грабоускі. Літва і Беларусь былі падзеляны на чатыры дэпартаманты: Віленскі, Гародзенскі, Менскі і Беластоцкі. У складзе Адміністрацыйных Камісій дэпартамантау былі Вайсковыя Аддзелы.

Загадам ад пятага ліпеня 1812 года Напалеон даручыу Часоваму Ураду сфармаваць на яго ( Урадау ) кошт пять палкоу пяхоты і чатыры палкі кавалерыі, дзеля чаго трэба было набраць 14.000 рэкрутау, з іх 4.000 для кавалерыі.

Адначасова быу заложаны 3-ці легка-конны полк Цэсарскай Гвардыі, куды запісалася шмат ахвотнікау-шляхоцкае моладзі. Шэфам палка быу брыгадны генерал Канапка. Напалеон выдау 400.000 франкау на сфармаванне гэтага палка. Фармавауся ен у Варшаве.

Тэрмін службы Часовы Урад усталіу аднолькавы-шасцірочны. Цікава адзначыць штаб-кватэры палкоу, іх шэфау і з якіх паветау рэкрутаваліся палкі. Гэта відаць з ніжэй паданай табліцы. На фармаванне усіх гэтых палкоу Цэсар Напалеон дау 500.000 франкау.

Апрач фармаваных палкоу браліся таксама людзі і да батальенау стальцоу, галоуным чынам з палясоушчыкау і паляунічых. Гэткіх батальенау было шэсць. Былі уласныя палкі буйных беларускіх магнатау, у прыватнасці уланскі полк нясвіжскага князя Дамініка Радзівіла. Каб падтрымаць парадак і бяспеку была утворана Народная старожа, якая вучылася ваяуніцтву у святы.

Утвораны былі на французкі лад павятовыя кампаніі жандармерыі.

Усяго у пяхотных і уланскіх палках і батальенах стральцоу было 20.000 людзей. Але часці мелі значны працэнт благой, нават зусім нягоднай зброі. Напалеон не вельмі клапаціуся пра баяздольнасць літоуска-беларускага войска. Зразумела, што такое войска не здолела б аказаць моцны супраціу расейскай арміі.

Так яно і адбылося. Доля не была прыхільнай гэтаму літоуска-беларускаму войску. Не доуга давялося яму ваяваць: наступ расейцау спыніу яго дзейнасць.

Аналізуючы гэтыя гістарычныя дадзеныя можна зусім іначай паглядзець на падзеі вайны 1812 года, на ролю беларусау у гэтай вайне і зрабіць адпаведныя высновы.

Па-першае, войска Банапарта знайшло падтрымку у беларускай шляхты і магнатау, у беларускіх патрыетау у першую чаргу таму, што Напалеон дазволіу адраджаць ВКЛ і зрабіу дзеля гэтага хоць што-небудзь у параунанні з расейскім царом.

Па-другое, ніякіх польскіх інтрыг не было. Ішло адраджэнне ВКЛ. Імкненне беларусау, зрэшты як і палякау, аднавіць сваю дзяржаунасць-гэта звычайная прага паняволенных народау. ( Няужо цяперашняе імкненне Беларусі да суверэнітэту, у тым ліку і Дэкларацыя 27 ліпеня 1990 года, чыясці інтрыга ).

Па-трэцяе, ніякага вяртання палякау беларусы не чакалі. Так, пэуная частка беларусау, асабліва шляхецтва, прымала каталіцкую веру, прычым не адсалодкага жыцця. Але гэта не значыць што ішло нейкае "вяртанне палякау". Не гледзячы на польска-ката-

| N N ПАЛКОУ | ШТАБ - КВАТЭРА | ІМЯ І ПРОЗВІШЧА ШЭФА | ЯКІЯ ПАВЕТЫ ДАЛІ РЭКРУТАУ У ПОЛК |
|---|---|---|---|
| 18 пяхотны | В і л ь н я | Граф Аляксандр Хадкевіч | Віленскі, Завілейскі, Вількамірскі, Браслаускі, Ашмянскі. |
| 19 пяхотны | Р а с і е н ы | Граф Канстанцін Тызенгауз | Троцкі, Ковенскі, Уніцкі, Расіенскі, Шавальскі, Вількамірскі. |
| 20 пяхотны | Г а р о д н я | Барон Адам Біскінг | Гародзенскі, Лідскі, Новаградскі, Слонімскі, Ваукавыскі, Пружанскі, Пінскі. |
| 21 пяхотны | Б е л а с т о к | Антон Гелгут | Кобрынскі, Берасцейскі, Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі, Драгічынскі. |
| 22 пяхотны | М е н с к | Граф Станіслау Чапскі | Менскі, Дзісенскі, Барысаускі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі. |
| 17 уланскі | К у п і ш к і | Граф Міхайла Тышкевіч | Віленскі, Завілейскі, Браслаускі, Вількамірскі, Уніцкі, Расіенскі, Шавальскі, Тэльшаускі. |
| 18 уланскі | Н я с в і ж | Граф Кароль Пшэздзецкі | Менскі, Барысаускі, Дзісенскі, Вілейскі, Слуцкі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі. |
| 19 уланскі | Н а в а г р а д а к | Канстанцін Раецкі | Ашмянскі, Троцкі, Ковенскі, Гародзенскі, Лідскі, Наваградскі, Слонімскі, Ваукавыскі. |
| 20 уланскі | П і н с к | Ксавэры Абуховіч | Пінскі, Берасцейскі, Кобрынскі, Пружанскі, Беластоцкі, Бельскі, Драгічынскі, Сакольскі. |

